


Беларускі ПЭН Цэнтр

# Культурны супраціў у Беларусі

**выпуск 29 (42)**

**19–25 ліпеня 2021**

*«Гэта сапраўды вельмі страшна – імкліва губляць каштоўнасці, перш за ўсё, у галіне права, якія чалавецтва выпакутавала цягам сваёй гісторыі. Я б ніводнаму чалавеку не пажадала апынуцца пасярод дзікунскага свята беззаконня».*

*Сабіна Брыло*


1. ВЫНІКІ МАНІТОРЫНГУ ПАРУШЭННЯ КУЛЬТУРНЫХ ПРАВОЎ ЗА СТУДЗЕНЬ-ЧЭРВЕНЬ 2020 ГОДА
2. ПЕРАСЛЕД, ПРЫСУДЫ, КУЛЬТУРНАЯ ПАЛІТЫКА
3. ЖЫЦЦЁ Ў НЯВОЛІ
4. ТВОРЧЫ СУПРАЦІЎ І КУЛЬТУРНЫ АКТЫВІЗМ
5. ГАЛАСЫ АСОБАЎ
6. МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ
7. ПАВІНШУЙЦЕ ПАЛІТВЯЗНЯЎ З ДНЁМ НАРАДЖЭННЯ


**ЯК ДАПАМАГЧЫ ДЗЕЯЧАМ І ДЗЯЯЧКАМ КУЛЬТУРЫ**

**падтрымайце кампанію Save Our Songs**

# 1. ВЫНІКІ МАНІТОРЫНГУ ПАРУШЭННЯ КУЛЬТУРНЫХ ПРАВОЎ ЗА СТУДЗЕНЬ-ЧЭРВЕНЬ 2021 ГОДА

**За 1-е паўгоддзе 2021 года зафіксаваны 621 выпадак <u>парушэння культурных правоў</u> і правоў чалавека ў дачыненні да дзеячаў і дзяячак культуры.**












# 2. ПЕРАСЛЕД, ПРЫСУДЫ, КУЛЬТУРНАЯ ПАЛІТЫКА



Фота: budzma.by

**Ніна Шыдлоўская і Алена Макоўская, кіраўніцы Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» і каардынатаркі грамадскай кампаніі «Будзьма беларусамі!», у мэтах бяспекі вымушаныя былі часова з'ехаць з Беларусі.**





**Таццяна Мастыка, якая ў мінулым узначальвала грамадскае аб’яднанне «Гісторыка», і яе муж Андрусь Мастыка, гісторык і навуковец, затрыманыя пасля ператрусу супрацоўнікамі КДБ 19 ліпеня.**



**Пасля Таццяну змясцілі ў СІЗА КДБ, а месцазнаходжанне Андруся дагэтуль невядоме. Адваката да іх не дапускаюць.**



**Максім Субач, музыка, удзельнік гуртоў TonqiXod і Subtonans, затрыманы 20 ліпеня ў Мінску. Падставай для затрымання з’явілася налепка на машыне, а дакладней, яе фота, што было зроблена ў пачатку сакавіка 2021 года. Музыку прысудзілі 15 сутак адміністратыўнага арышту.**



Фота: Polina Sharai




19 ліпеня стала вядома, што на банкаўскі рахунак Беларускага ПЭН-цэнтра накладзены арышт. Пасля Мінюст падаў пазоў аб ліквідацыі Беларускага ПЭНа.



У Оршы вымушана закрыцца крама нацыянальнай сімволікі «Цудоўная крама».
У ліпені 2021 года Ігара Казмерчака – уладальніка крамы, праваабаранцу, двойчы затрымлівалі, ён стаў падазраваным у крымінальнай справе аб псаванні маймасці, а ў яго кватэры правялі ператрус. 24 ліпеня следчыя органы спынілі крымінальную справу.



У сядзібе ўніверсітэта імя Ніла Гілевіча 20 ліпеня адбыўся ператрус.

Андрэй Дынько, галоўны рэдактар часопіса «Наша гісторыя», адпушчаны са Следчага Камітэта 21 ліпеня пад падпіску аб яўцы. Верагодна, Андрэй застаецца падазраваным па ч.2 арт. 216 КК (нанясенне маёмаснай шкоды без прыкметаў раскрадання).





Ганна Сокур, танцорка, затрыманая 22 ліпеня, асуджаная на 7 сутак адміністратыўнага арышту.




**Больш за 40 грамадскіх арганізацый
былі зліквідаваныя ў Беларусі 23 ліпеня,
сярод іх культурніцкія:
Арт-сядзіба, Майстэрня сацыяльнага кіно,
Інфармацыйна-культурны цэнтр «ІніцыАрт» (Наваполацк),
курсы беларускай мовы «Мова нанова»,
Культурна-асветніцкая ўстанова «АСЕТ»,
Інфармацыйна-асветніцкая ўстанова «Амарока»,
Культурна-асветніцкая ўстанова «Садзейнічанне культурнаму развіццю гарадоў»,
Культурна-асветніцкая ўстанова «Крэсы»,
Сацыяльна-асветніцкая ўстанова
ў галіне гісторыка-культурнай спадчыны «УНОВІС-форум».**

**Ксенія Галубовіч, фатографка,
была затрыманая 23 ліпеня падчас здымак у
дзіцячым хоспісе. У яе кватэры прайшоўператрус,
пасля допыту яе адпусцілі
пад падпіску аб неразгалошванні.**



Фота: Наша Ніва




**Да Стасі Губарэвіч, былой жонкі палітыка Юрыя Губарэвіча, прыйшлі з вобшукам, падчас якога знайшлі сцяг, павесілі яго на балконе, прымусілі жанчыну пераапрануцца ў кашулю з чырвонымі палоскамі і шкарпэткі такога ж колеру. Пасля сфатаграфавалі, павезлі ў РАУС і прыцягнулі да адказнасці за аднаасобны пікет, пакараўшы штрафам у 70 базавых велічынь.**

# 3. ЖЫЦЦЁ Ў НЯВОЛІ

**Ігар Ільяш, журналіст, аўтар (разам з Кацярынай Андрэевай) кнігі «Беларускі Данбас», быў затрыманы 16 ліпеня, паводле ч. 1 арт. 342 КК («Арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, што груба парушаюць грамадзкі парадак, альбо актыўны ўдзел у іх»).**




**Паводле сведчанняў родных, ён бадзёры і спакойны. У камеры ён сядзіць з іншымі «палітычнымі», матрасаў і бялізны нікому не даюць. Ён прасіў перадаць калегам: «Працаваць, працаваць і працаваць ў тры разы болей! Не спыняцца і не апускаць рукі!»**

Фота: Euroradio.fm



**Зноў пачалі прыходзіць лісты ад Андрэя Пачобута. Ён распавядае, што перанёс каранавірус цяжка, але наступстваў пакуль не адчувае і спадзяецца, што іх і надалей не будзе.**

**Турму летам ён называе пеклам, кажа, што калі дождж, тады лягчэй дыхаецца. Ён рыхтуецца да суду – вывучае матэр’ялы справы. Жыве ўспамінамі пра родны горад Гродна.**

# 4. ТВОРЧЫ СУПРАЦІЎ І КУЛЬТУРНЫ АКТЫВІЗМ




**Працяг мастацкай кароткаметражнай кінаанталогіі «Менск 2020"**

**Прэзентацыі нямецкага выдання новай кнігі Вольгі Шпарагі – Die Revolution hat ein veiblcichest Gesicht – і дыскусіі з удзелам філосафкі праходзяць у розных гарадах Германіі.**



Фота са старонкі ў Facebook



**Вольны хор выступіў з канцэртам у Познані і Уроцлаве.**

**Андрэй Хадановіч прэзентаваў сваю новую кнігу «Фантомныя радасці», якая выйшла ў Польшчы на беларускай і польскай мовах.**

Фота: Анастасія Канарска



## Малююць беларускія вязні

**Андрусь Войніч**







**Дзмітры Дубоўскі**




**Сяргей Раманаў**




**Яна Арабейка**

# 5. ГАЛАСЫ АСОБАЎ



**Алена Макоўская**:
***«Хочацца спадзявацца, што гэта ўсе ж, хаця і раптоўная, але камандзіроўка, што гэта ўсё скончыцца і можна будзе вярнуцца ў Беларусь. Дзякуй усім, хто дапамагаў».***



**Ніна Шыдлоўская**:
***«Не думала, што давядзецца так зрабіць...
Але давялося...
Беларусь мая родная, чакай мяне!
Я вярнуся.
Дзякуй вялікі ўсім добрым людзям».***

**Андрэй Хадановіч** **пра сваю новую кнігу:**
***«Для многіх удалы верш – гэта маленькая выспачка добрых навін у бязмежжы дэпрэсіі. Калі з гэтым сутыкаешся, то адразу не дазваляеш сабе расслабляцца і пішаш гэтую гісторыю далей. Заканчэнне кнігі далёкае ад звыклага чытачу Хадановіча. Гэтыя тэксты больш лірычныя, больш сур'ёзныя, больш трагічныя. Хоць я спрабую не пісаць тэкстаў, якія б не заканчваліся надзеяй, бо дэпрэсіі хапае і без мяне».***



# 6. МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ



**Шведскія пісьменнікі падтрымалі Барыса Пятровіча, беларускага празаіка, старшыню Саюза беларускіх пісьменнікаў, у доме якога на мінулым тыдні прайшоўператрус і які знаходзіцца пад падпіскай аб нявыездзе. На знак салідарнасці ў сваіх сацыяльных сетках пад хэштэгам #baryspjatrovitj яны змясцілі відэаролікі, на якіх чытаюць фрагменты з кніжкі Барыса Пятровіча «Fresker», што выйшла ў 2008 годзе ў перакладзе Дзмітрыя Плакса.**

Фота: Euroradio.fm




**23 ліпеня ў Штутгарце ў рамках руху Music for Belarus прайшоў канцэрт TRIO vis-à-vis, прысвечаны Марыі Калеснікавай.**




**Падтрымку Беларускаму ПЭНу і беларускай грамадзянскай супольнасці выказаў шэраг арганізацый, сярод якіх:**
**Украінскі ПЭН, ПЭН Амерыка,**
**Еўрапейская пісьменніцкая рада і Выдавецкія перспектывы,**
**Брытанская асацыяцыя пісьменнікаў, Міжнародны ПЭН-клуб,**
**ПЭН Масква і асацыяцыя «Вольнае слова», Шведскі ПЭН**
**Асацыяцыя нямецкіх пісьменнікаў і ПЭН-цэнтр Нямеччыны.**

# 7. ПАВІНШУЙЦЕ ПАЛІТВЯЗНЯЎ З НАРОДЗІНАМІ




**У ліпені 4 чалавекі, якія так ці інакш уключаныя ў працэс культурнага развіцця нашай краіны, будуць спраўляць свой дзень народзінаў за кратамі. Гэта Мікалай Сасеў, выкладчык танцаў (16 ліпеня); Іван Вярбіцкі, мастак і дызайнер (17 ліпеня), Аляксей Санчук, музыка (18 ліпеня) і Віктар Лосік, капірайтэр (22 ліпеня).**

**Адрасы для лістоў:**
**Аляксею Санчуку ды Мікалаю Сасеву:**
**Турма №4. 212011, г. Магілёў, вул. Крупскай, 99А**

**Віктару Лосіку:**
**СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2**

**Івану Вярбіцкаму:**
**ПК №2. 213800, г. Бабруйск, вул. Сікорскага, 1**

